ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Кніга ноша
№ 53 снежань, 2018
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**АЎТОГРАФ**

## Алесь БЫЧКОЎСКІ:
# «Літаратурны герой павінен абуджаць жаданне жыць...»



фота www.lit-bel.org.

**– Шаноўны Аляксандр Аляксандравіч, нядаўна выйшла Вашая кніга «Дабрадзеі і гармідар квантавай літаратуры», творы ў якой вытрыманыя ў жанрах фэнтэзі, містычны рэалізм. Хто з літаратурных герояў (новай кнігі) Ваш любімы, найбольш блізкі Вам і чаму?**

– Адзін класік сказаў, што збольшага пісьменнікі спісваюць герояў з сябе. І хай сабе герой жыве прыгодамі, палюе на цмокаў і пярэваратняў, блукае паміж светамі, аднак пэўныя рысы характару перадаюцца часам у спадчыну ад асобы аўтара. Пісьменнік можа і не паляваць на цмокаў, аднак часам прымушае герояў рабіць учынкі, якія б здзейсніў уласна сам. Таму ў маёй новай кнізе ўсе галоўныя героі мне блізкія і падабаюца: і Тамаш Ян, які ў пошуку старажытных артэфактаў трапіў у анамальную вёску, населеную дзівакамі і зданямі, і паляўнічы на ваўкалакаў Вадзім Барташэвіч, і былы музыка блэк-метал гурта Вальдэмар, які вырашыў дапамагчы каханай жанчыне вызваліцца з абцугоў тагасветнай пачвары, і натхнёны чытач Іван Ледастояў, які пасля здарэння ў «Парку», дзе матэрыяльна ўвасабляюцца літаратурныя творы, сам вырашыў сачыняць фэнтэзі. Амаль усіх гэтых людзей яднае адно – вера ў Бога, у Ісуса Хрыста. На маю думку, гэтага вельмі бракуе сучаснай літаратуры і зусім няма ў фантастыцы і фэнтэзі. Дарэчнае пытанне: чаму мае героі – вернікі? Фантастыка прапануе шмат тэорый наконт стварэння свету. Але ж здаецца ні адзін фантаст не прыняў ідэю, што наш свет насамрэч створаны Богам, што ўсё, сказанае ў Бібліі – праўда. Чаму лягчэй верыць у іншапланецян? У грамадстве, поўным «праваслаўных атэістаў», праўдзівасць Бібліі можа выглядаць самай фантастычнай ідэяй, і самай правільнай, стваральнай. Мы ўсе – літаратурныя героі Кнігі, напісанай Богам, і жыццё кожнага індывідуума як асобная глава з альтэрнатыўнымі канцоўкамі. Менавіта пра тое першае апавяданне ў маім новым зборніку. І недзе падсвядома так думаюць усе мае героі.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Алесь Бычкоўскі (Аляксандр Аляксандравіч Бычкоўскі) – пісьменнік. Аўтар кніг прозы «Анамалія» (2012), «У пошуку шчасця» (2017), «Дабрадзеі і гармідар квантавай літаратуры» (2018). Нарадзіўся ў 1975 годзе ў Беразіно. Жыве ў Беразіно.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Сін Ільля. Libido. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 140 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 112).**

Марыя жыве ў правінцыйным постсавецкім горадзе, насельнікі якога ізаляляваныя ў сваіх камерах-адзіночках – разам з успамінамі, траўмамі мінулага і штучнымі каханкамі. Недзе на перыферыі іх свядомасці пастунова распальваецца грамадзянскі канфлікт, але накуль ніхто на яго не зважае. Марыя прадчувае: нешта неўзабаве павінна адбыцца...

Гэта першая кніга Іллі Сіна, у якой ёсць такія ўласцівасці прозы, як герой і сюжэт.




**Ваганаў Сяргей. Я веру ў Цуд: вершы розных гадоў (1963–2018). – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 140 с.: [8] с. іл – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 113).**

Вершы, сабраныя ў гэтай кнізе, ствараліся журналістам Сяргеем Ваганавым цягам жыцця, але амаль нідзе не друкаваліся, за выключэннем часопіса «Дзеяслоў», газеты «Народная Воля», альманаха «Мишпоха» і Сеціва. Такім чынам, гэта першая паэтычная кніга аўтара, у якой вы знойдзеце і любоўную лірыку, і філасофскую, і грамадзянскую – на беларускай і рускай мовах. Вершы наўмысна не пазначаны аўтарам канкрэтнымі датамі, бо, як ён лічыць, вельмі важна ўспрымаць іх з адчуваннем безупыннасці Часу.




**Трайдэн Дар'я. Крыштальная ноч: апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 92 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

«Крыштальная ноч» – гэта вянок, сплецены з гісторый пра крохкасць, прыгажосць, Беларусь і смерць. Вобраз крышталю сустракаецца ў кожным аповедзе. Крышталь грае ад месячных промняў, адбівае святло, асляпляючы ці, наадварот, дазваляючы ўбачыць патаемнае, прыхаванае, інтымнае.




**Юдина Ольга. Тараканы. – Минск: Кнігазбор, 2018. – 168 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

У вас ёсць тараканы? Не-не, не ў кватэры. У галаве. Вы добра з імі знаёмыя? Можа, вы нават здолелі пасябраваць? Калі так, вы – малайчына, бо прарабілі велізарную працу над сабой. А зараз уявіце, што замест сваіх тараканаў вы пачалі бачыць прусакоў іншых людзей. Вы зможаце жыць звыклым жыццём ці з глузду з'едзеце? Магчыма, вы палюбіце тараканаў больш, чым самага блізкага чалавека. А можа быць...

Чытайце адну з версій развіцця такіх падзей у абсурдна-фантастычнай аповесці «Тараканы».




**Веледимович Александр. Золотое время, или Занимательные приключения Шуры Переплётова в окрестностях города Витебска, правдиво сочинённые под воздействием трёх муз и одного рассказа таинственного призрака, а иногда подсмотренные с высоты птичьего полёта. – Минск: Кнігазбор, 2018. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Зборнік навэл пра жыццё Шуры Пераплётава ў Віцебску. Аўтар пераплятае гістарычныя факты з гарадскімі міфамі і літаратурнымі цытатамі. Забабоны шляхты, войны, падпольны рок-н-рол і паездкі на лятучым трамваі ператвараюцца ў новыя легенды пра горад на беразе Заходняй Дзвіны.




**Шкляревский Игорь. Ожерелье сушёных грибов: стихи, поэмы, эссе. – Минск: Кнігазбор, 2018. – 184 с. – (Библиотечка журнала «Дзеяслоў»; вып. 24).**

Імя паэта Ігара Шкляраўскага неаддзельна ад Беларусі. У 1938 годзе ён нарадзіўся на Магілёўшчыне. У 1987-м сваю Дзяржаўную прэмію СССР выдаткаваў на пасадку лесу на беразе Прыпяці. Адна з яго кніг невыпадкова завецца «Паром из Беларуси в Россию» (у ёй сабраны пераклады з беларускай класікі). У яго вершах навечна прапісаны Баркалабава і Днепр, Крычаў і Бярэзіна, у яго кнігах праз стагоддзі перагукваюцца «Песня пра зубра» і «Слово о полку Игореве», напісаныя выхадцамі з беларускіх земляў... Гэта кніга выходзіць да 80-годдзя паэта, які з 1965 года жыве ў Маскве.




**Федарэнка Андрэй. Сузіральнік: аповесці, апавяданні, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 144 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 25).**

Новую кнігу Андрэя Федарэнкі складаюць творы, напісаныя ў апошнія гады.




**Сцяпан Уладзімір. Папяровая шапка: хайку. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 64 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 26).**

Зборнік Уладзіміра Сцяпана – кароткія паэтычныя тэлеграмы з трох радкоў. Яны – як фотаздымкі, якія фіксуюць розныя моманты жыцця. Кожны верш з сямнаццаці складоў – спроба знайсці паэзію ў самым звычайным і будзённым.

На мокрым акне
стаўлю подпіс. Быццам сам
парк намаляваў.

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Справа: альманах: вып. 5-2018. Гал. рэдактар А. Наварыч. – Мінск: Смэлтак, 2018. – 246 с., з іл.**

У пятым выпуску альманаха «Справа» Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў змешчаныя творы беларускіх, украінскіх і польскіх аўтараў. Чытач знойдзе тут паэзію, прозу, эсэістыку, пераклады, навуковую публіцыстыку. Галоўная тэма гэтага выпуску – «Каханне».




**Барадулін Рыгор. Дзённікі і запісы. Выпуск 5. 1989-1991. Укл., прадм. Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 340 с. [4] с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3).**

Пяты выпуск «Дзённікаў і запісаў. 1989–1991» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна яскрава адлюстраваў новы час нашай гісторыі – перабудова, дэмакратыя, галоснасць, а за імі нечаканае знікненне СССР і нарэшце – незалежнасць Беларусі і іншых рэспублік былога Савецкага Саюза. Адбыліся паездкі паэта ва Украіну, Узбекістан, Таджыкістан і Туркменію, а таксама ў Кітай і Францыю. Выйшлі новыя кнігі вершаў і перакладаў, ішло напружанае творчае і грамадскае жыццё. Том папоўнілі не друкаваныя раней у зборніках вершы, а таксама фотаздымкі і малюнкі сяброў.




**Мароз Уладзімір. Выбранае. У 3 т. Т. 1. Другога не дадзена: паэзія: вершы, паэма, евангельскія згадкі. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 420 с. – (Кнігарня пісьменніка).**

Першы том «Выбранага» складае паэзія Уладзіміра Мароза, адметная старонка яго творчасці. Ва ўсіх дзевяці кнігах, з якіх прадстаўлены вершы, творца з сялянскай зацятасцю, дбайна ўзрабляе свой абшар, які для яго ёсць непадзельна Беларусь, радзінны хутар, каханне й сям'я, шлях да храма. Паэт ідзе горнымі і дольнімі шляхамі Святой Зямлі і сваёй роднай Беларусі, прамаўляе да чытача з адметнай ліра-эпічнай інтанацыяй, гранічна шчыра, філасофскі заглыблена. Спрадвечная тэма кахання ў творах паэта ёсць адбітак уласнага жыцця, сагрэтага цеплынёю любові. Вершы прасякнуты верай у перамогу дабра над злом, святла над цемрай, вылучаюцца пачуццёвай безабароннасцю, пранікнёнай лірычнасцю.




**Мароз Уладзімір. Выбранае. У 3 т. Т. 2. Тры сшыткі: проза: аповеды жыцця. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 428 с. – (Кнігарня пісьменніка).**

Другі том «Выбранага» складаюць празаічныя тэксты Уладзіміра Мароза. Проза вядомага беларускага паэта і кінадакументаліста своеасаблівая, адметная. Вызначаны жанр «аповеды жыцця» невыпадковы – апавяданні пабудаваныя на рэальных жыццёвых сітуацыях, сустрэчах і падзеях, якімі багата прыватнае, літаратурнае і кінематаграфічнае жыццё аўтара. Адначасна тэксты выходзяць за межы аўтабіяграфічнасці, экзістэнцыйнасці быцця канкрэтнага асобнага чалавека ў сучасным свеце – у творах праяўлены яскравы адбітак часу, яны напоўнены роздумам пра сэнс чалавечага існавання на зямлі, пра спрадвечную барацьбу дабра і зла. Шмат якія сітуацыі чытач зможа прымерыць на сябе, знайсці сугучча свайму эмацыйнаму стану, думкам і развагам.




**Мароз Уладзімір. Выбранае. У 3 т. Т. 3. Беларускі мур: эсэ: эсэ, жыццяроздумы, мініяцюры. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 452 с. – (Кнігарня пісьменніка).**

Трэці том «Выбранага» складаюць эсэістычныя тэксты Уладзіміра Мароза. Гэта вобразнае асэнсаванне падзей далёкіх і недалёкіх часоў, памкненняў людскіх і крыжовага беларускага шляху. Цэнтральнае месца займае эсэ «Беларускі шлях. Звенчакі айчыннай гісторыі», дзе ў кароткіх аповедах аб гістарычным шляху Беларусі як суб'екта гісторыі за адлік узяты натуральны кругабег часу – стагоддзі. Паглыбленым роздумам пра вечныя пытанні быцця і існавання чалавека на зямлі вылучаюцца жыццяроздумы аўтара і эсэ як пра гістарычных асобаў, так і пра нашых сучаснікаў. Шэраг твораў (кінаэсэ) ёсць літаратурнай асновай створаных дакументальных фільмаў. Тэкст «Ніву ўзарэ араты» ўяўляе сабой мініяцюры – фрагменты тэкстаў дакументальных фільмаў.




**Гарачка Усевалад. Каляровыя слёзы: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 84 с.**

У кнігу ўвайшлі вершы, напісаныя аўтарам пераважна ў перыяд з 2005 па 2009 г. Яны вызначаюцца арыгінальным асэнсаваннем рэчаіснасці, шырокім настраёвым і тэматычным дыяпазонам. Нягледзячы на некаторыя асаблівасці, што нібыта зблiжаюць вершы зборніка з пэўнымі наватарскімі плынямі, іх хутчэй варта разглядаць як працяг класічнай традыцыі ў беларускай паэзіі.




**Ясмінска Надзея. Дом цікаўных казак. Маст. Алена Сацута. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 72 с.**

Казкі, нібы чароўныя істоты, падарожнічаюць па свеце і час ад часу дораць камусьці дзіва. Неяк яны з цікаўнасці наведалі адзін дом – і з жыхарамі гэтага дома здарыліся сапраўдныя, хай і маленькія, прыгоды... «Дом цікаўных казак» – гэта складанка кароткіх гісторый пісьменніцы Надзеі Ясмінска з шыкоўнымі папяровымі ілюстрацыямі мастачкі Алены Сацута. Героі ў ёй сустракаюць незвычайных гасцей, прыходзяць на дапамогу дзіўным незнаёмцам і нават апынаюцца ў розных цікавых месцах, не пакідаючы свайго пакоя.

Кніжка прызначана для чытачоў малодшага школьнага ўзросту.




**Ман Томас. Смерць у Венецыі: выбраныя навелы і апавяданні. Пер. з ням. У.А. Папковіча. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 392 с. – (Серыя «Noblesse Oblige»).**

Стваральнік «інтэлектуальнага рамана», лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1929 года Томас Ман (1875–1955) быў бясспрэчным майстрам у навелістычным жанры. Найлепшыя яго навелы з'яўляюцца ўзорамі глыбокага псіхалагізму, бездакорнай архітэктонікі, дзівоснай гармоніі нацыянальнага і агульначалавечага, сацыяльнага і ўніверсальнага. Сярод твораў кароткай прозы Мана ёсць сапраўдныя шэдэўры, да іх адносяцца перш за ўсё «Трыстан», «Тоніа Крэгер» і «Смерць у Венецыі», якія публікуюцца ў гэтай кнізе.




**Сэмкіў Расціслаў. Як пісалі класікі: парады, праверaныя часам. Пер. з укр. Н. Бабінай. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 224 с.: іл.**

Сярод сусветна вядомых пісьменнікаў ёсць тыя, якія вырашылі падзяліцца сакрэтамі свайго поспеху і напісалі кнігі пра тое, як пісаць добра. Гэтае выданне пазнаёміць вас з поглядамі на мастацкую творчасць мегапапулярных Агаты Крысці, Джорджа Оруэла, Рэя Брэдберы, Курта Вонегута, а таксама блізкіх па часе Мілана Кундэры, Марыа Варгаса Льёсы і Умберта Эка. Чаму яны пісалі? Як яны гэта рабілі? І як на самай справе сталі паспяховымі? Гэта – зборнік практычных парад, якія пацверджаны прызнаннем чытачоў па ўсім свеце.




**Кэстнэр Эрых. Прыгоды Луізы і Лоты: авантурны раман для дзяцей. Пераклад з нямецкай Галіны Скакун; мастачка Наста Арайс. – Мінск: Тэхналогія, 2018. – 159 с.**

Раман напісаны з тонкім разуменнем дзіцячай душы. Дасціпна і захапляльна аўтар распавядае гісторыю двух дзяўчынак, якім давялося развязваць праблему, надзвычай складаную нават для дарослых. Толькі на нямецкай мове раман вытрымаў больш за 160 выданняў і неаднаразова экранізаваўся.



**Касцюкевіч Павал. Бульба ў райскім садзе: беларускі правадннік па Старым Запавеце (ТаНаХу). – Вільня: Логвінаў, 2018. – 130 с.**

Ці расла ў Эдэме бульба? Хто плаціў за камунальныя паслугі Адама і Евы? Як сталася, што цар Давід зрабіўся першым партызанам і рэкецірам у гісторыі чалавецтва? Чаму грамадзянін БНР, паэт Хаім-Нахман Бялік, так і не адрадзіў біблійны іўрыт? Што агульнага ў «Песні песняў» з «Песняй пра зубра»? 500 гадоў пасля выхаду скарынаўскага выдання перакладчык ізраільскай літаратуры і асірыёлаг-аматар Павал Касцюкевіч узяўся ўважліва перачытаць біблійныя аповеды і пашукаць у іх жывыя паралелі з беларускай, габрэйскай і блізкаўсходняй культурай, гісторыяй і палітыкай.




**Пясецкі Сяргей. Гляну я ў аконца... Пер. з польск. Марыі Пушкінай. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 246 с.**

«Гляну я ў аконца... » – другі раман з «Мінскай трылогіі» Сяргея Пясецкага, славутага польска-беларускага празаіка. Аўтар з уласцівай яму каларытнасцю распавядае пра закрытае і поўнае таямніцаў зладзейскае асяроддзе Мінска пачатку ХХ стагоддзя. Дзеянне рамана ахоплівае перыяд з ранняй вясны 1918 да жніўня 1919 года, час краху імперый і ваяўнічага паўставання новых дзяржаваў. Той парой у Мінску як у вялікім прыфрантавым горадзе з шырокімі магчымасцямі для прафесійных злачынцаў канцэнтраваліся прайдзісветы з самых розных краёў. Пасля «Яблычка» нас чакае працяг гісторыі «фірмовага» злодзея Аліка Барана, яго падступнай каханкі Паўлінкі і яго таленавітага вучня Яся Нацэвіча, а таксама небяспечныя прыгоды новых герояў. Перад вачыма чытача праходзіць стракаты кагагод узломшчыкаў, махляроў, авантурыстаў – жанчын і мужчын, «тузоў» і «пешак», – а таксама разварочваецца цэлы веер метадаў іх працы. Над зладзейскім кланам Мінска збіраюцца хмары – гульня ідзе на жыццё і свабоду.




**Бельскі Алесь. Між маладзіком і ветахам: вершы, жарты, эпіграмы. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 112 с.**

Аснову зборніка склалі вершы, напісаныя ў ранні перыяд творчасці, а таксама ў пару юнацтва і маладосці. Яны былі ўлучаны ў першую кніжку, якая рыхтавалася да друку ў канцы 1980-х гг., але так і не пабачыла свет. Паэтычныя тэксты, сабраныя пад адной вокладкай, даюць уяўленне пра станаўленне творчай асобы аўтара, яго духоўныя і мастацкія шуканні. Многія творы друкуюцца ўпершыню.




**Эўрыпід. Медэя. Пер. са старагрэцкай Лявона Баршчэўскага; прадмова В. Ракіцкага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 64 с. (Драматургі свету).**

«Медэя» – адна з самых значных трагедый Эўрыпіда (480-я – 406 да н. э.). У аснове твора ляжыць міф пра выправу грэкаў на чале з Ясонам на караблі «Арго» ў Калхіду, каб вярнуць у Афіны залатое руно.




**Эльёт Томас Стэрнз. Выбраная паэзія. Уклад. М. Шчура; пер. з англійскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 80 с. (Паэты планеты).**

Томас Стэрнз Эльёт (1888–1965) – англійскі паэт, драматург і літаратурны крытык, прадстаўнік мадэрнізму ў паэзіі. Лічыцца адным з найвялікшых паэтаў ХХ ст.




**Смалянчук Аляксандр. Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 700 с. [12] л. іл.: іл.**

У цэнтры ўвагі біяграфія «краёўца» Рамана Скірмунта (1868–1939). Кніга знаёміць з асобай прадпрымальніка, ідэолага «краёвасці», беларускага і польскага палітыка і грамадскага дзеяча, для якога зыходным пунктам публічнай дзейнасці было замілаванне да роднага Краю. Гэты Край пачынаўся з Парэчча на Піншчыне і ахопліваў землі ўсёй гістарычнай Літвы. Краёвы патрыятызм паспрыяў далучэнню Р. Скірмунта да беларускага руху і ўдзелу ў змаганні за незалежнасць Беларусі ў 1918 г. Ягонае жыццё і дзейнасць можна лічыць апошнім актам польска-беларускага сімбіёза, які трагічна абарваўся ўвосень 1939 г. Кніга адрасаваная ўсім, каго цікавіць мінулае гістарычнай Літвы, Беларусі, Польшчы.




**Баршчэўскі Лявон. Словы і вобразы: літаратура і мастацтва ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Ч. II: Ад Пострэнесансу да Асветніцтва. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 352 с.**

На падставе аналізу канкрэтных твораў розных часоў і народаў разглядаюцца найважнейшыя этапы станаўлення літаратуры і мастацтва – ад старажытнасці да канца эпохі Асветніцтва (гэтая частка пачынаецца эпохай Пострэнесансу). Беларуская літаратурна-мастацкая традыцыя паказваецца як нацыянальнае праяўленне агульнаеўрапейскага культурніцкага руху. У кнізе даецца вызначэнне вялікай колькасці найважнейшых тэрмінаў і паняццяў мастацтва- і літаратуразнаўства, філасофіі культуры і некаторых сумежных галінаў ведаў. Першая частка выйшла ў 2017 г. Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі і тэорыі літаратуры і мастацтва.




**Бельскі Алесь. Вытокі і плынь: артыкулы, нарысы, эсэ. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 140 с.**

У зборнік увайшлі выбраныя творы, напісаныя вядомым літаратарам і журналістам на працягу 1975–2015 гг., пачынаючы ад школьнага часу да сённяшніх дзён. Гэтыя адмыслова падабраныя тэксты даюць уяўленне пра творчую эвалюцыю аўтара, яго жанравыя і тэматычныя пошукі. У першую чаргу ў выданне ўлучаліся публікацыі краязнаўчага характару, змешчаныя ў беларускай перыёдыцы. Зборнік падрыхтаваны да 40-годдзя з пачатку творчай дзейнасці аўтара.

**Бельскі Алесь. Сам-насам з літаратурай: літаратуразн. і пед. артыкулы, творч. партрэты і ўспаміны. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 196 с.**

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў жыццё і лёс аўтара гэтак кнігі – вучонага, пісьменніка, педагога – цесна спалучаны з беларускай літаратурай, нацыянальнай школай і




адукацыяй. У літаратуразнаўчым дыскурсе даследчыка – духоўны космас паэзіі, мастацкія феномены і традыцыі, самабытная творчасць класікаў і сучасных майстроў слова. Педагог асэнсоўвае ролю і месца беларускай літаратуры ў сучаснай адукацыі і выхаванні моладзі. Успаміны і эсэ прысвечаны вядомым пісьменнікам, калегам, сябрам і аднадумцам. Адрасуецца выкладчыкам, настаўнікам, студэнтам, усім чытачам, якія цікавяцца нацыянальным прыгожым пісьменствам, праблемамі літаратурнай адукацыі.




**Мядзёлка Паўліна. Сцежкамі жыцця. Прадм., падрыхт. тэксту, камент. Ганна Запартыка. – Мінск: Лімарыус, 2018. – 612 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

У выданні ўпершыню пад адной вокладкай друкуюцца нецэнзураваныя ўспаміны вядомай дзяячкі беларускага адраджэння Паўліны Мядзёлкі. Жыццёвая біяграфія мемуарысткі была звязаная з многімі гістарычнымі падзеямі, якія адбываліся ў Беларусі ў XX ст., а сярод яе сяброў ці проста знаёмых былі А. Бурбіс, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, М. Гарэцкі, К. Езавітаў, У. Ігнатоўскі, І. Краскоўскі, Янка Купала, В. Ластоўскі, І. і А. Луцкевічы, Цётка і многія іншыя. «Сцежкі жыцця» вядуць у беларускія мястэчкі, дарэвалюцыйную Вільню, Пецярбург, па шляхах бежанства, турмаў і высылкі, якія не абмінулі аўтарку. Гэтая кніга – пра вядомых дзеячаў беларускай гісторыі, пра яе знакавыя падзеі і пра неверагодныя жыццёвыя выпрабаванні самой Паўліны Мядзёлкі.




**Калныньш Албэрт. 1941 год вачыма менскага мальца. – Мінск: Тэхналогія, 2018. – 91 с., [8] арк. іл.**

Аўтару было дванаццаць гадоў, калі ў Мінск прыйшла вайна. Горад ператварыўся ў суцэльныя руіны і папялішчы. Не маючы дзе жыць, пазбаўленыя сродкаў да існавання, дзеці разам з бацькам выправіліся ў Латвію, да родзічаў. На сваім шляху яны бачылі зычлівасць і жорсткасць, прыгажосць і занепад. Пра гэтае драматычнае падарожжа і апавядаецца ў кнізе.




**Жодзіна Art. Уклад. С.Я. Навіцкая, уст. артыкул С.Я. Навіцкая, Ю.Ф. Праскуракоў. – Мінск: «Чатыры чвэрці», 2018. – 172 с.**

Гэты альбом – унікальнае трохмоўнае выданне, якое знаёміць з 29 мастакамі, чый жыццёвы і творчы лёс знітаваныя з Жодзінам. Сярод іх такія прызнаныя майстры як А. Марачкін, А. Фралянкоў, А. Ксяндзоў, М. Андруковіч, У. Макараў, А. Казак, У. Сіўчыкаў, М. Крайко, У. Гладкевіч, Г. Конанава і іншыя. Кожны творца прадстаўлены фотапартрэтам, біяграфіяй, а таксама рэпрадукцыямі з чатырох твораў.




**Цвірка Кастусь. Адам Міцкевіч: Вялікі пясняр Беларусі. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Адам Міцкевіч (1798–1855) – вялікі паэт сусветнага ўзроўню. Ён паходзіў з беларускай дробнай шляхты і пісаў свае творы на мове пануючай культуры Рэчы Паспалітай таго часу, гэта значыць на польскай. Але ўсе героі і сюжэты яго паэтычных твораў – беларускія. Таму можна з упэўненасцю казаць, што ён – пясняр Беларусі.




**Мельнікаў Андрэй. Ян Станкевіч: Шукальнік крыніц моцы. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Ян Станкевіч (1891–1976) – мовазнавец, гісторык, перакладчык, публіцыст, грамадскі дзеяч. Аўтар вялікай колькасці навуковых прац па беларускай філалогіі і гісторыі, некалькіх падручнікаў і слоўнікаў. Перакладчык усёй праваслаўнай Бібліі на беларускую мову.




**Бяляцкі Алесь. Турэмныя сшыткі. – Мінск, 2018. – 324 с.: іл. – (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 5).**

Алесь Бяляцкі, старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна», пісьменнік і грамадскі дзеяч, быў арыштаваны 04.08.2011 за праваабарончую дзейнасць. Віны не прызнаў. Асуджаны 24.11.2011 на чатыры з паловай гады пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і спагнаннем нанесенай шкоды дзяржаве. Да суда сядзеў у СІЗА г. Мінска і Жодзіна. Пакаранне адбываў у ПК № 2 г. Бабруйска, працаваў упакоўшчыкам у швейным цэху.

Зняволенне беларускага праваабаронцы выклікала шырокую кампанію салідарнасці ва ўсім свеце. Алесь Бяляцкі быў вылучаны на Нобелеўскую прэмію міру, у 2013 г. стаў першым лаўрэатам прэміі за правы чалавека Рады Еўропы імя Вацлава Гаўла. Дзякуючы міжнароднаму ціску быў датэрмінова вызвалены. Правёў за кратамі 1052 дні.

Падчас зняволення Алесь Бяляцкі вёў актыўную перапіску, напісаў багата розных тэкстаў, у тым ліку на літаратуразнаўчыя тэмы, эсэ, успаміны. З дапамогай сяброў і калег у гэты перыяд выйшлі тры ягоныя кнігі – «Асьвечаныя беларушчынай» (2013), «Іртутнае срэбра жыцця» (2014) і «Халоднае крыло Радзімы» (2014). Новая кніга былога палітвязня ў серыі «БТЛ» «Турэмныя сшыткі» складаецца з дзённікавых запісаў, якія пункцірна рабіліся ў розных сшытках ці на асобных аркушах, зазвычай сярод іншых запісаў і папер. Аб'яднаныя і расчытаныя разам, яны склалі турэмны тэкст без прыўкрасаў і ўнутранай цэнзуры.

Выданне прасякнутае сучаснай «лагернай» атмасферай, персанажамі, адносінамі, дапоўненае аўтарскімі каментарамі і лістамі, не прапушчанымі лагернай цэнзурай.




**Барадзін Зыгмунт. Нёман – рака нязгоды. Пераклад з польскай мовы. Санкт-Пецярбург: Невский Простор, 2018. – 334 с.**

Кніга мінскага гісторыка Зыгмунта Барадзіна (1959–2010) прысвечана дзейнасці Арміі Краёвай на акупаванай тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1943–1944 гады. Арэнай крывавай барацьбы быў рэгіён, які да верасня 1939 г. меў назву Наваградскага ваяводства Польшчы, а з канца 1939 і па чэрвень 1941 года – Баранавіцкай вобласці БССР. Аўтар выкарыстоўвае шырокую дакументальную базу, каб давесці, што віну за развязванне ў гэтым рэгіёне згаданага канфлікту нясе савецкі партызанскі рух. Менавіта ён выконваў дырэктывы савецкага кіраўніцтва, мэтай якіх была поўная ліквідацыя Арміі Краёвай на абшарах былой Польскай дзяржавы, інкарпараваных у 1939 г. у склад СССР.




**Раткевіч Алесь. Невядомая гісторыя майго краю. Зборнік нарысаў. – Мінск: Друкарскі дом «Вішнёўка», 2018. – 198 с.**

У кнізе аўтар адлюстроўвае позірк на вайну менавіта вачыма людзей, якія прашлі праз усе выпрабаванні вайной і рэпрэсіямі. Толькі ведаючы праўду пра вайну, якая бывае балючай і горкай, нашы нашчадкі змогуць правільна ацаніць Мір на зямлі.




**Важнік Юрый. Юзаф Бака. Геній майго месца. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018 – 196 с.**

Кніга прысвечана каталіцкаму ксяндзу, паэту, місіянеру, доктару тэалогіі часоў позняга Барока беларускага паходжання Юзафу Баку (1707–1780 гг.), які стаў дзіўным геніем гістарычнай Пухавіччыны. Багацце і разнастайнасць жыцця, яго невычэрпная сіла абумовілі незвычайны інавацыйны жанр «Юзафа Бакі». Гэта кніга – літаратурная мазаіка, якая складаецца з разважанняў, аналізу з'явы «геній месца», жывых вершаў даўняга часу, што ажываюць у сучасным перакладзе на беларускую мову, сэнсавага турызму – свайго рода інтэлектуальнага падарожжа па часах і сэнсах.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, bookstore.lohvinau.by, kniharnia.by і halijafy.by.

# «Літаратурны герой павінен абуджаць жаданне жыць...»

(Пачатак на стар. 1)

**– Чаму Вы зацікавіліся фантастыкай і фэнтэзі? Каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі ў літаратуры, творчасць якіх пісьменнікаў найбольш паўплывала на станаўленне Вас як творцы?**

– У школьныя часы вельмі захапляўся навукай. Прычым гуманітарных дысцыплін я цураўся, хоць па гісторыі атрымліваў выдатныя адзнакі. Займаўся адно фізікай і астраноміяй. Вывучаў шмат формул, ад якіх у непадрыхтаванага чалавека можа ўзарвацца галава. Тады ж і ўзнікла захапленне фантастыкай. Гэта натуральна, іншага не магло быць. Мы ў юнацтве марылі пра касмічныя палёты і светлую будучыню чалавецтва на абшарах Галактыкі. Сёння я разумею памкненні Ілана Маска, мы недзе з адной эпохі. А фантастычная літаратура змагла адначасова спаталіць і абудзіць прагу пошукаў свайго месца ў Сусвеце на той час. Фантастыку той парой выдавалі няшмат, кнігі ведалі напералік, зачытвалі да дзірак. На мяне спачатку паўплывалі творы К. Булычова, А. Казанцава, І. Яфрэмава, Э. Гамільтана, Р. Шэклі, іншых пісьменнікаў.

Тады я ўжо намагаўся нешта сачыняць сваё. Праўда, літаратурны дэбют адбыўся толькі ў чэрвені 1994 года, калі часопіс «Першацвет» надрукаваў два мае вельмі наіўныя апаведы. У тым жа годзе я паступіў у БДУ на факультэт журналістыкі, і працягнуў далей пісаць фантастыку і міжволі захапіўся фэнтэзі. Тады ж пачаліся і змены ў светапоглядах. Нейкага кола любімых пісьменнікаў у мяне няма, ёсць творы, якія аднойчы вельмі спадабаліся і паўплывалі і якія магу параіць. Гэта «Каталі мы вашае сонца» і «За Ахеронам» Яўгенія Лукіна, «Кысь» Таццяны Талстой, «Цукарны крэмль» Уладзіміра Сарокіна, «Іосіф і яго браты» Томаса Мана. Люблю творчасць Эйвінда Юнсэна, Мэры Сцюарт, Генрыха Сянкевіча, Анжэя Сапкоўскага, Міхаіла Велера, Дзіяны Сэтэрфільд. З беларускіх творцаў вельмі паважаю Андрэя Федарэнку, Валера Гапеева, Вінцэся Мудрова, Уладзіслава Ахроменку, Валянціна Акудовіча і шматлікіх іншых. У кожнага з названых пісьменнікаў ёсць чаму павучыцца. Яшчэ штодня чытаю Біблію.

**– Вы цікавіцеся не толькі будучыняй, але і мінулым, захапляецеся краязнаўствам і фальклорам. Распавядзіце, калі ласка, пра свае краязнаўчыя пошукі і адкрыцці, што новага Вы даведаліся пра сваю радзіму?**

– Больш за ўсё ў краязнаўстве мяне захапляюць старадаўнія легенды і паданні. Аднойчы я разгарнуў кніжку «Легенды Міншчыны», і ўсё, захапіла надоўга. Між іншым, для тых, хто захапляецца стварэннем літаратуры фэнтэзі з нацыянальным каларытам, падобныя легенды могуць стаць не толькі натхненнем, але і бясконцай крыніцай вобразаў і сюжэтаў. На Беларусі шмат паданняў звязана з ваўкалакамі, і я быў у вялікім захапленні, адкрыўшы старажытную легенду пра тое, што маё роднае Беразіно заснавалі пярэваратні. Гэта была цудоўная, рамантычная гісторыя кахання, з атрыбутамі страшнай беларускай казкі, злым млынаром-чарадзеем, прыгажуняй дачкой і маладым парабкам. Я напісаў артыкул на гэтую тэму ў газету «Бярэзінская панарама», і пасля той артыкул даў пачатак фэнтэзі-баевіку «Паляванне на ваўкалака», які можна прачытаць у маёй новай кнізе.

Вельмі шмат цікавага знаходзіш выпадкова ў падшыўках старых газет. Бывае, раскажа чалавек пра сівую даўніну, у газеце надрукуюць і пасля ўсё «паспяхова» забудзецца. І не ўспомніць ніхто! І вось такім чынам «выкапаў» цікавы матэрыял пра чалавека, які жыў на Бярэзіншчыне шмат гадоў таму, адправіўся ў падарожжа ў Еўропу, стаў рыцарам і ваяваў нават у Афрыцы. Менавіта дзе, паданне ўжо замоўчвае, таму што сам расповед пра іншае – пра супрацьстаянне плямёнаў дулебаў і харчан і пра каханне мужнага асілка да цнатлівай прыгажуні. Але ж можна ўявіць, што гэты чалавек няйначай прымаў удзел у крыжовым паходзе і ваяваў на святой зямлі, бо якім чынам яшчэ можна было трапіць у старажытнасці ў Афрыку? Матэрыял напісаны жыхаром Бярэзіншчыны Іванам Сувалавым, які ў свой час працаваў у лясной гаспадарцы і несумненна пачуў паданне ад старых людзей. Справа ў тым, што на нашых тэрыторыях у старажытнасці была база пражывання згаданых дулебаў. Паданні пра іх несумненна перадаваліся ў вуснай форме. І нават Карусь Каганец, калі жыў на Бярэзіншчыне, напісаў верш «Сцяты камень» таксама паводле дулебскага падання. У нас на самой справе таямнічы край!

**– Распавядзіце, калі ласка, якія Вашы далейшыя творчыя планы?**

– Планаў заўжды шмат… Нашай літаратуры бракуе сатыры і гумару. І гумару не «ніжэй за пояс», не здзекаў з пакутнічкаў-п'яніц, а добрай стваральнай сатыры. Здаецца, з эпохі «Запісак Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя стаўленне да сатыры вельмі неадназначнае. І з «Пінскай шляхтай» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча падобнае назіралася. У нас чамусьці на афіцыйным узроўні смеху цураюцца, не раўнуючы ядзернай пагрозы. А дарэмна! Бо смех – гэта самыя дзейсныя лекі. Не атрымліваецца нешта ў жыцці – пасмяяліся, пар выпусцілі ды давайце далей жыць, працаваць, ствараць, мацаваць – лозунгаў шмат, імпэту таксама. І дэпрэсіўных захворванняў стане менш. Але гэта была прыказка, казка – наперадзе. Амаль закончыў пісаць свой першы ў жыцці раман – сатырычную антыўтопію, пра прыгоды звычайнага правінцыйнага карэспадэнта. Дадаў у сюжэт навукова-фантастычны складнік. Менавіта ў гэтым рамане я зрабіў спробу з навуковага пункту гледжання растлумачыць, знайсці адказы на ўсе падзеі ў нашым жыцці, грамадстве, краіне. Адкрыю сакрэт: многае тлумачыць квантавая фізіка. Кожны з нас з'яўляецца не толькі часцінкай вялікага сусвету, але і як назіральнік стварае асобны сусвет уласна для сябе. Колькі людзей – столькі і сусветаў. Іх змесціва залежыць ад таго, што чалавек бачыць, чуе і чытае, і як да ўсяго ставіцца. Дык вось, ставіцца трэба з гумарам, каб выпадкова не здурнець ад таго, што часам бачыш і чуеш. Пра тое і твор.

Таксама амаль закончыў драматычную аповесць «Ведзьмы», пра трагедыю сямейных адносінаў, калі людзьмі валодаюць гарэлка і забабоны. Дарэчы, гэта вельмі сур'ёзны твор, фантастыкай у ім не патыхае. Працягваю пісаць карацелькі-бывальцы кшталту іншых маіх, надрукаваных у «Дзеяслове» ў нумарах 5 і 6 за 2018 год пад назвай «Край ваўкалакаў. Фэйсбучны раман». Гэта тэма ніколі не згасне. Падобныя зацемкі маюцца бадай у кожнага пісьменніка, і распавядаюцца за кубкам гарбаты. Мяркую аднойчы стварыць вялікі мастацкі твор на матэрыяле паданняў Бярэзіншчыны.

Напрыканцы хачу сказаць, што на маю думку літаратурны герой павінен абуджаць жаданне жыць, а не прагу застрэліцца. Шчыра спадзяюся, што ў маёй новай кнізе гэта атрымалася перадаць, то і дзякаваць Богу!

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Ірына Ляшкевіч. Вас я чакала. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх шсьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 107). – 124 с.**

У сваіх вершах Ірына Ляшкевіч фіксуе моманты прыгожага, праявы Боскага ў паўсядзённых вясковых выявах і сюжэтах. У побытавых, на першы погляд, сітуацыях, у штодзённых з'явах бачацца глыбіня пачуццяў і повязь лірычнай гераіні з універсумам прыроды, а таксама спробы зазірнуць у «залюстроўе» жыцця.

Сентыментальнасць, настальгія, рамантыка родных краявідаў, успаміны дзяцінства – многае з гэтага можа стаць блізкім любому чалавеку, які возьме ў рукі новую кнігу Ірыны Ляшкевіч. У гэтым зборніку ёсць тое, чаго ў сучасным, стоадсоткава аблічбаваным свеце не хапае: сонечныя промні, пахі кветак, шамаценне лістоты і траваў, свежае паветра, цурчэнне крынічнай вады, стрэхі драўляных хат, на якіх гняздуюць буслы. І гэта ўсё – проста, ясна, натуральна, гэта нашае роднае, сваё. І калі ў чытача няма магчымасці зараз жа кінуць усе гарадскія справы і выбрацца на прыроду, то ён можа атрымаць сваю порцыю добрых пачуццяў, адгарнуўшы старонкі зборніка «Вас я чакала».

**Як укладалі «Спадчыну»: Да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы / Уклад., падрыхтоўка тэкстаў, уступ. слова, агульнае рэдагаванне Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча; камент. Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 35). – 290 с.**




Гэтая кніга – трэцяя ў падсерыі «Спадчына: агледзіны» серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» ЗБС «Бацькаўшчына» – уяўляе з сябе заснаваны на ліставанні аповед пра тое, як у 1950-я гады на Захадзе рыхтаваўся збор выбранай паэзіі Янкі Купалы. Захаваная ў архіве БІНіМа і перададзеная ў БДАМЛМ карэспандэнцыя ўкладальніка Вітаўта Тумаша і выдаўца Станіслава Станкевіча расказвае пра час і людзей, а таксама пра тыя складанасці, якія мусілі пераадолець эмігранты, каб у 1955 годзе ў Мюнхене ўбачыла свет унікальнае выданне твораў класіка. Як адзначаюць укладальнікі, гэта першая беларуская кніга пра кнігу.




**Пётра Мурзёнак. Колеры. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 188 с.**

Гэты паэтычны зборнік вядомага дзеяча беларускага замежжа ў Канадзе Пётры Мурзёнка – творчы плён аўтара за апошнія пяць гадоў. Зборнік складаецца ў асноўным з вершаў, створаных у Атаве (Канада), але асобныя раздзелы ўтрымліваюць таксама і падарожную паэзію з «іспанскага» і «дамініканскага» дзённікаў. Творца верыць, што прыгажосць у выглядзе паэзіі здольная выратаваць свет. Пасля выхаду «Колераў» кожны мае магчымасць таксама ў гэтым пераканацца.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 53
снежань, 2018
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 53 25.02.2019.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com